На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...

Якуб Колас

№ 70 (1135)

Субота, 14 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае надвор'е, на большай частцы тэрыторыі моцныя ападкі ў выглядзе дажджу і мокрага снегу. Вецер паўночны, 4—9 м/с, месцамі па захадзе парывы да 15—20. Тэмпература паветра ў Гродне — 0...+2, Віцебску, — +1...+3, Брэсце, Мінску — +2...+4, Магілёве — +3...+5, Гомелі — +4...+6.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, часам ападкі ў выглядзе дажджу з мокрым снегам. Вецер заходні, 5—10 м/с, 15-га на поўначы парывы да 15—18 м/с. Тэмпература паветра ўначы — -2...+3, удзень — +1...+6, 16-га па поўдні — +7...+11.



# З ВЯЛІКАДНЕМ!

## Пасхальнае пасланне

### Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

*"Якая каштоўная міласць Твая, Божа!*
*... у Цябе крыніца жыцця; у святле Тваім мы бачым святло"*

*(Пс. 35: 8, 10)*

Узлюбленыя архіпастыры, пастыры, манахі
і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!

Усемагутны Гасподзь спадобіў усіх нас вялікай міласці: у гэтыя святыя пасхальныя дні Новага стагоддзя дабрыні Божай мы зноў святкуем Светлае Хрыстова Уваскрасенне! І ўпершыню ў надышоўшым трэцім тысячагоддзі ад Раджджаства па плоці Госпада Бога і Збавіцеля нашага Іісуса Хрыста мы вітаем адзін аднаго і ўсё стварэнне Божае радасным пасхальным вітаннем:

**Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!**

Па прыкладзе Уваскрэслага Збавіцеля мы звяртаемся да ўсіх людзей з дабравесцем: *"Мір вам, дальнім і блізкім"* (Эф. 2: 12). Святы апостал і евангеліст Іаанн Багаслоў апавядае, што Уваскрэслы Гасподзь якраз гэтымі словамі — *"Мір вам"* (Ін. 20: 19, 21, 26) — вітаў Сваіх апосталаў і паслядоўнікаў, шмат разоў яўляючыся ім перад Узнясеннем да Айца Нябеснага. Таксама і святыя апосталы ў пасланнях да царкоўнай паствы перш за ўсё жадалі ёй благадаці і міру. З таго часу і дагэтуль святым абавязкам і неад'емнай уласцівасцю хрысціян стала малітва за спасланне пакутуючым людзям благадаці і міру ад Бога Айца нашага і Госпада Іісуса Хрыста. І Уваскрасенне Хрыста Збавіцеля, Які перамог смерць, было і давеку застанецца цэнтрам хрысціянскай веры і крыніцай нязменнай надзеі на канчатковую перамогу жыцця і міру ў чалавечым родзе.

Бурнае XX стагоддзе было напоўнена войнамі ад свайго пачатку і да канца. Больш за сто гадоў таму над народамі адукаванай Еўропы споўніліся словы Пісання: *"Абралі новых багоў, таму вайна ля варот"* (Судз. 5: 8). На жаль, духоўнае пралюбадзейства не мінавала жыхароў і нашай Айчыны. Таму першая ў XX стагоддзі Сусветная вайна стала для народаў нашай краіны пачаткам братазабойскай смуты і духоўнага змроку. І ўжо не старажытныя народы, а бацькі нашы, ды і мы з вамі адносілі да сябе словы свяшчэнных кніг Бібліі: *"Вось мы заблукалі ад шляху ісціны, і святло праўды не свяціла нам"* (Прам. 5: 6), *"бо святло Гасподняе — шлях Яго"* (Сір. 50: 31).

Натхнёныя Уваскрасеннем Хрыстовым і тымі Евангельскімі падзеямі, якія адбываліся перад Пасхаю, сёння мы пачынаем лепш разумець прычыны і наступствы вогненных выпрабаванняў трагічнага XX стагоддзя, якія напаткалі наш народ. Прайшоўшы, падобна Самому Збавіцелю, знявагі і апляванні, Праваслаўная Царква была ў мінулым стагоддзі увянчана цярновым вянцом і прынесла свой крыж на гістарычную Галгофу. Менавіта ў першай палове XX стагоддзя прымаў Гасподзь у Айцоўскія абдымкі сонм новамучанікаў і вызнаўцаў, праслаўленых Юбілейным Архіерэйскім Саборам Рускай Праваслаўнай Царквы ў жніўні мінулага года. Сапраўды, падзеі тых дзесяцігоддзяў склалі мучаніцкую славу Маці-Царквы.

*(Працяг на 2-й стар.)*



*Велікодныя святы — народныя святы.*

Фота IREX/ProMedia.

## Пастырскі ліст

*Не бойцеся. Шукайце Езуса ўкрыжаванага з Назарэту; Ён уваскрос, Яго няма тут.*

**Мк 16,6**

Пасля заканчэння шабату жанчыны, купіўшы духмяныя рэчывы, пайшлі ў грабніцу, каб намасціць цела Езуса. Калі ўвайшлі ў грабніцу, бо камень быў ужо адвалены, яны ўбачылі юнака ў белым адзенні, моцна спалохаліся і нізка схілілі галовы. Анёл сказаў ім: "Не бойцеся! Бо ведаю, што ўкрыжаванага Езуса шукаеце. Няма Яго тут, бо ўваскрос, як і казаў" (Мц 28,5).

А калі яны са страхам і вялікай радасцю хутка выйшлі з грабніцы, Езус паўстаў перад імі і сказаў: "Не бойцеся".

Таксама ўзрадаваліся і вучні, калі ўбачылі ўваскрослага Пана. А Езус сказаў ім: "Супакой вам!".

Толькі яны, жанчыны і Апосталы, спазналі радасць ад таго, што ўбачылі змёртвыхпаўсталага Езуса. Знамянальна, што ўваскрослы Езус не аб'явіўся тым, хто Яго не прыняў, а потым выдаў на смерць: архісвятарам, кніжнікам, Пілату альбо Іраду. Як бы Ён даказаў ім, што сапраўды з'яўляецца Сынам Божым, што яны забілі Бога!

Таму Езус аб'явіўся тым, хто паверыў у Яго і пайшоў за Ім, хоць на самай справе яны спалохаліся і ўцяклі, калі іх Настаўніка ўкрыжавалі, але цяжка і балюча перажывалі Яго смерць і вельмі ўзрадаваліся, калі ўбачылі Яго ізноў жывога. Як ажыўляльны бальзам, што трапіў на іх засмучаныя і поўныя роспачы сэрцы, былі словы ўваскрослага Езуса: "Не бойцеся" і "Супакой вам".

Таксама і мы ва ўрачыстасць Змёртвыхпаўстання Пана радуемся перамозе Хрыста Пана над смерцю. Адкрытымі сэрцамі ўспрымаем скіраваны таксама і да нас поўны радасці, суцяшэння і надзеі заклік Езуса: "Не бойцеся" і "Супакой вам". Аднак, каб заслужыць гэта, трэба так, як жанчыны і вучні, прызнаць Езуса Сынам Божым і пайсці за Ім, выконваючы Яго евангельскія наказы.

Праўда, бывае так, што вера ў Хрыста патрабуе шмат адрачэння і ахвяры. Многія хрысціяне на гэтай тэрыторыі за вернасць Богу, Хрысту, Яго Евангеллю і Яго Касцёлу яшчэ не так даўно плацілі вялікаю цаною. Шмат верных Богу спазналі розныя выпрабаванні, а часам і пакутлівыя праследаванні за тое, што не паддаліся націску антырэлігійнай прапаганды і атэізацыі.

*(Працяг на 2-й стар.)*

## Велікоднае пасланне

**Дарагія суайчыннікі!**
**Браты і сёстры!**

Шчыра віншуем усіх вас, вашы дамы, вашы сем'і, мужчын і жанчын, моладзь і дзяцей з вялікім святам **УВАСКРЭСЕННЯ ХРЫСТОВА!**

**ХРЫСТОС УВАСКРЭС! ХРЫСТОС УВАСКРЭС! ХРЫСТОС УВАСКРЭС!**

**САПРАЎДЫ УВАСКРЭС!**

2000 год таму анёлы апавясцілі жанчынам, якія прыйшлі да магілы са смуткам і страхам, цудоўную вестку: **"Што вы шукаеце жывога сярод мёртвых? Яго няма тут: Ён уваскрэс..." Лукі 24:5-6.** Гэтымі словамі вялікай радасці, словамі сведчання анёлаў нябесных аб Уваскрэсенні Ісуса Хрыста мы віншуем усіх жыхароў нашай краіны.

Біяграфіі знакамітых людзей усіх часоў заканчваюцца смерцю, некралогам і пахаваннем, а жыццёвая гісторыя Ісуса Хрыста заканчваецца цудоўным Уваскрэсеннем. Ён уваскрэс! Вучні і вучаніцы **"...знайшлі камень адвалены ад магілы. І, увайшоўшы, не знайшлі цела Госпада Ісуса" Лукі 24:2-3.** Разарваўшы ланцугі смерці, Хрыстос перамог грэх і смерць. Пустая магіла — гэта сведчанне кожнаму чалавеку, што, веруючы ў Ісуса Хрыста, мы ўваскрэснем і будзем жыць вечна. Таму біяграфіі ўсіх хрысціян не заканчваюцца часам і месцам пахавання, а ўваскрэсеннем і святліцай на небе. Хрыстос пэўна сказаў: **"...Я жыву, і вы будзеце жыць" Іаана 14:19.**

Уваскрэсенне Хрыстова цягне за сабой уваскрэсенне ўсіх людзей. У гэтым і заключаецца радасць нашага святочнага віншавання: **Хрыстос Уваскрэс! Сапраўды Уваскрэс!** Пераможана смерць, якая раздзірае нашы сэрцы, якая атручвае наша жыццё, разлучае блізкіх і дарагіх нам людзей. Уваскрэсеннем Хрыстовым абвешчана перамога жыцця над смерцю, праўды над хлуснёй, дабра над злом, любові над нянавісцю.

Усё пройдзе: пакуты, войны, хваробы, цяжкія жыццёвыя выпрабаванні і ўсё зямное жыццё. Але наперадзе радасць уваскрэсення, шчасце вечнага жыцця ў цеснай сувязі з Богам і ўсімі дзецьмі Яго.

Разам з Велікодным віншаваннем заклікаем усіх хрысціян і ўсіх суайчыннікаў да веры і да пастаяннага і абноўленага жыцця ў Ісусе Хрысце. Хай будзе ў кожнага з Вас шчаслівае свята Уваскрэсення Хрыстова, ззянне якога не памеркне, святло якога не пагасне, радасць якога не мінецца. Немагчыма расчаравацца ў Ісусе Хрысце.

Спадзявайцеся на Яго дапамогу і сілу, звяртайцеся да Яго з усімі праблемамі, хай Гасподзь Ісус Хрыстос кіруе Вашым жыццём, тады вечным святлом будзе напаўняцца ўсё Ваша жыццё, жыццё Вашага дома, жыццё ў нашай краіне.

Мы з радасцю віншуем Вас:

**ХРЫСТОС УВАСКРЭС! ХРЫСТОС УВАСКРЭС! ХРЫСТОС УВАСКРЭС!**

**САПРАЎДЫ УВАСКРЭС!**

**Епіскап цэркваў Саюза Евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі
Аляксандр ФІРЫСЮК.**

## От всей души

**Дорогие соотечественники!**

От всей души поздравляю вас с великим христианским праздником Пасхи — Светлым Воскресением Христовым!

Когда-то, много столетий тому назад, в наш мир по вине человека вошла смерть. Мы потеряли общение с нашим Творцом, создавшим вселенную и человека. Наши духовно мертвые души претерпели из-за этого неисчислимое количество бед и страданий. Но Бог, Который есть любовь, всегда желал вернуть нас к жизни. Он послал на землю Сына Своего Единородного Иисуса Христа, **"Который предан за грехи наши и воскрес для оправдания нашего"** (Рим.4:25). Умерши на голгофском кресте, Иисус Христос умертвил все то, что разделяло нас с Богом, и, восстав из мертвых, подарил нам общение с нашим Небесным Отцом. Как радостно осознавать, что воскресение Христа — это победа жизни над смертью, света над тьмою. И радость наша в том, что теперь каждый живущий на этой земле может прийти к Иисусу со своей болью и найти у Него душевный покой, ибо **"...Он есть мир наш"** (Ефес. 2:14).

Да благословит Господь Беларусь и оградит ее от скорбей. Пусть сила Воскресения проявится во всей полноте в вашей личной жизни, в жизни ваших семей и ваших близких.

Примите самые искренние поздравления с праздником Пасхи!

Христос Воскрес! Христос Воскрес! Христос воистину Воскрес!

**Епископ Союза Христиан веры Евангельской в Республике Беларусь.
Сергей ХОМИЧ.**

**НАВІНЫ**

## Мінскі аўтамабільны прыпыняе канвеер

**Мінскі аўтамабільны завод вымушаны скарыстоўваць прыпыненне канвеера. Пра гэта БелаПАН паведаміў кіраўнік Цэнтра грамадскіх сувязяў МАЗа Валянцін Лопан.**

Паводле яго слоў, канвеер аўтазавода не працаваў 6 красавіка і, відавочна, будзе спынены 16 красавіка. Выключэнне складаюць кіраўніцтва прадпрыемства, збытавыя, забеспячэнскія і фінансавыя службы, якія працу не спыняюць.

Як паведаміў Валянцін Лопан, канвеер спынены з-за адсутнасці дызельных рухавікоў неабходнай колькасці і патрэбнай наменклатуры, якія пастаўляе Яраслаўскае ААТ "Аўтадызель" (Расія). Паводле слоў спецыялістаў, збіраць аўтамабілі "з таго, што ёсць", эканамічна немэтазгодна, паколькі гэта ацягвае абаротныя сродкі.

Прадпрыемства аддае перавагу вытворчасці аўтамабіляў толькі тых мадэляў і мадыфікацый, якія заказаны спажыўцамі. Паводле звестак камерцыйных службаў Мінскага аўтазавода, па стане на 6 красавіка прадпрыемства мела станоўчае сальда ў разліках з пастаўшчыкамі рухавікоў ААТ "Аўтадызель" у памеры каля 3 мільёнаў расійскіх рублёў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Хутка XIII з'езд пісьменнікаў

**Кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) звярнулася ў Міністэрства культуры з просьбай выдзеліць памяшканне Палаца Рэспублікі для правядзення 29 мая XIII з'езда пісьменнікаў.**

Як паведаміла БелаПАН выконваючая абавязкі старшыні СБП Вольга Іпатава, да ўдзелу ў з'ездзе запрошаны члены саюза пісьменнікаў, які сёння налічвае 498 чалавек, а таксама прадстаўнікі ўладных структур і кіраўнікі ўсіх творчых саюзаў краіны. Пісьменнікам прапанавана на працягу красавіка-мая выступіць у СМІ па ўсіх хвалюючых іх пытаннях, каб на з'ездзе засяродзіць увагу на ключавых праблемах развіцця нацыянальнай літаратуры.

Паводле слоў Вольгі Іпатавай, з'езд "павінен заявіць грамадству аб цудоўнай беларускай літаратуры". На з'ездзе мы будзем гаварыць пра такія дамінанты літаратурнай творчасці, як мастацкія вартасці, грамадзянская і этычная пазіцыя літаратара", — сказала Іпатава. Паводле яе слоў, неабходна абмеркаваць праблемы, якія могуць сумесна вырашыць СБП, грамадскасць і дзяржава, для таго, каб беларускі пісьменнік заняў дастойнае месца ў грамадстве. Ва ўсім цывілізаваным свеце, адзначыла Іпатава, створана эканамічная аснова існавання пісьменніка, якая дазваляе забяспечыць свабоду яго творчасці, — прэміі і пажыццёвыя стыпендыі для найбольш вядомых мастакоў, а таксама фонды развіцця літаратуры, дзеючыя на льготных умовах.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Бунт гімнастак завяршыўся перамір'ем

**10 красавіка "Народная воля" паведаміла пра "бунт гімнастак" беларускай зборнай. Дзяўчаты адмовіліся ад далейшых выступленняў. Канфлікт, здаецца, завяршыўся, але са стратамі.**

Зборная Беларусі па мастацкай гімнастыцы, якая заваявала ў Сіднеі срэбраныя медалі, не вытрымала выпрабавання грашамі. Такую заяву зрабіла галоўны трэнер нацыянальнай зборнай па гэтым відзе спорту Ірына Ляпарская 12 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску. "Дзяўчынак асляпіў гэты поспех. Яны моцна сябе ўзвысілі, паказалі свае меркантыльныя інтарэсы, хаця рыхтаваліся да Алімпіяды нароўні з іншымі, і замест іх у Сіднеі маглі паехаць іншыя", — сказала Ляпарская.

Усе члены зборнай — Ганна Глазкова, Ірына Ільянкова, Марыя Лазук, Тацццяна Ананька, Тацццяна Бялан і Вольга Пужэвіч — вырашылі завяршыць кар'еру, але, па словах трэнера, толькі Ільянкова і Бялан зрабілі гэта годна, не прад'явіўшы ніякіх прэтэнзій. Першая выказала намер стаць трэнерам, другая закончыла выступленні з-за хвароб і паступіла ў інстытут.

Канфлікт паміж гімнасткамі і трэнерамі ўзнік з-за прэміяльных і кватэр у жылым комплексе "Алімпійскі". Пры гэтым, на думку Ляпарскай, крыніцай канфлікту былі не столькі самі гімнасткі, колькі іх сваякі, якія палічылі, што дзяржава не поўнасцю разлічылася са спартсменкамі за поспех на Алімпіядзе, у прыватнасці, выплаціла кожнай не 40, а 30 тысяч долараў (згодна з указам прэзідэнта, прэміяльныя за срэбраны алімпійскі медаль складаюць 30 тысяч долараў. — **БелаПАН**). Апрача таго, спартсменкі, насуперак заведзенаму ў мастацкай гімнастыцы парадку, адмовіліся пералічыць 10 працэнтаў прэміяльных у гэтак званую касу ўзаемадапамогі, сродкі якой, па словах Ляпарскай, ідуць на развіццё гэтага віду спорту.

Ляпарская выказала спадзяванне, што канфлікт вакол зборнай завершыцца добра: "Да нас ужо вярнулася Тацццяна Ананька. Адчуваю, што хутка пастукаецца ў дзверы Вольга Пужэвіч".

Зараз трэнеры робяць стаўку на новы састаў зборнай, які нядаўна заняў трэцяе месца на турніры "Гран-пры" ў Францыі і будзе рыхтавацца да выступленняў на летняй Алімпіядзе ў Афінах у 2004 годзе. "Спадзяюся, што гэты канфлікт нашу новую зборную чаму-небудзь навучыць і праз тры гады дзяўчынкі не будуць паводзіць сябе так, як іх папярэдніцы", — сказала Ляпарская.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# ОЧЕНЬ ДОРОГОЙ БОРОДИН!

**За Павла Бородина заплатили 3,5 миллиона долларов. Наличными. Огромный залог внес исполком Союза Беларуси и России. Так они распоряжаются бюджетными деньгами. Нашими деньгами. Не спрашивая нас.**



*Сладок хлеб-соль на свободе.*
Фото IREX/ProMedia.

Наконец-то. Событие, которого с таким нетерпением ждала вся олигархическая тусовка России и Беларуси, ждал изнервничавшийся "лидер всех славян", свершилось.

Исполнительный секретарь российско-белорусского союза Павел Бородин 11 апреля выпущен на свободу. Швейцарский суд, рассмотрев ходатайство адвокатов об освобождении Павла Павловича под залог, счел возможным удовлетворить сокровенное желание задержанного. Швейцарский судья не наложил никаких ограничений на передвижение Бородина, подозреваемого в получении миллионных взяток и отмывании денег. Недавний узник пообещал лишь, что по первому требованию швейцарской Фемиды предстанет перед присяжными.

Олигарх, наживший миллиардное состояние, работая в скромной должности интенданта Кремля, снова возвращается к своим товарищам. Корпус насмерть перепуганных российских олигархов вздохнул с облегчением. Оказывается, с западным правосудием тоже можно договариваться, были бы только деньги под рукой. Теперь опять можно возобновлять зарубежные турне, особо не опасаясь, что надолго застрянешь в каком-нибудь американском застенке.

Однако для нас в этом сюжете, уважаемый читатель, принципиально важно понять другое. Кто внес залог за российского гражданина, отмеченного заслугами перед царским двором? Путину дела нет до олигарха, которому прищемили хвост. Он даже где-то рад этому. Он всех их, разжиревших при Ельцине, хотел бы построить по стойке "Смирно!", чтобы знали, кто в доме российском настоящий хозяин.

Залог размером в 3,5 миллиона долларов США (5 миллионов швейцарских франков) внес Исполком белорусско-российского союза. Об этом "гуманитарном" жесте поведали российские СМИ. Белорусские скромно промолчали. Почему?! Потому что как-то странно и противоестественно получается. На выручку иностранного гражданина, имеющего сомнительную репутацию, обвиняемого в воровстве и мошенничестве, брошены деньги налогоплательщиков, в том числе и белорусских. Деньги огромные, на них можно было бы построить несколько больниц, школ, в течение года делать приличные доплаты к нищенской пенсии инвалидов...

Глава белорусского государства и одновременно председатель Высшего совета союза А. Лукашенко предпочел бросить эти деньги на то, чтобы вызволить из тюремного плена своего закадычного друга. Что-то не припоминается, когда бы главный чиновник страны с такой же решительностью мобилизовывал организационные и финансовые ресурсы на выручку попавших в затруднительное положение белорусских граждан. Что-то не приходит на память, когда бы белорусское консульство, например, в Польше, вносило залог за задержанных по какой-либо причине белорусов.

Но, может быть, деньги, переданные швейцарской юстиции в качестве залога, когда-либо вернутся на родину? Увы, скорее рак свистнет. Такое может случиться, если Бородин не побоится вернуться в Женеву, чтобы предстать перед судом, — и последний оправдает его. Или же приговорит Павла Павловича к наказанию, и тот вернется на тюремные нары, чтобы отсидеть положенное.

Только человек с очень смелым воображением может представить подобную развязку. Так что плакали наши с вами денежки, дорогие читатели.

Впрочем, главу белорусского государства это обстоятельство мало волнует. Напротив, он веселится и ликует. Ему удалось решить одну из самых сложных заковык своей предвыборной кампании. Ведь Павел Павлович был одним из гарантов его поддержки российской стороной в борьбе за второй президентский срок. Не случайно, когда свалилось это "несчастье", пресс-секретарь Бородина заявил: надо поскорее освобождать Павла Павловича, иначе у Александра Григорьевича могут быть проблемы на выборах.

Теперь, когда друг на свободе, Лукашенко может вздохнуть с облегчением. А нам, белорусским налогоплательщикам, в очередной раз придется выдохнуть, чтобы потуже затянуть пояса.

**Вячеслав КОЗЛОВСКИЙ.**

## Ерын пагражае назіральнікам

**Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі Леанід Ерын разглядае дзеянні па арганізацыі навучання патэнцыяльных назіральнікаў на прэзідэнцкія выбары з выкарыстаннем сродкаў міжнародных арганізацый як прыкмету вярбоўкі беларускіх грамадзян.**

Пра гэта ён заявіў у гутарцы з журналістамі 12 красавіка. "Калі разглядаць з нашых пазіцый, то гэта сапраўды вярбоўка, — сказаў кіраўнік КДБ. — Калі вас запрашаюць, навучаюць, потым яшчэ плацяць і накіроўваюць выконваць тое ці іншае заданне — няхай гэта будзе назіранне, няхай гэта будзе што заўгодна, — але гэта самыя сапраўдныя прыкметы вярбоўкі, і ў прынцыпе мы павінны займацца гэтымі людзьмі. Вядома, 14 тысяч мы не будзем ахопліваць, але арганізатараў мы ведаем".

Пры гэтым Л.Ерын не выключыў, што "калі ўзнікне неабходнасць у дэпартацыі" тых, хто вярбуе, і "палітычная мэтазгоднасць, а яна ўжо наступае", спецслужбы будуць звяртацца і да гэтага метаду. Канкрэтныя дзеянні могуць быць прадпрынятыя на працягу двух-трох месяцаў, мяркуе старшыня КДБ.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

# Пасхальнае пасланне

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

І неўзабаве для народа нашай шматпакутнай Айчыны прыйшоў час, які лепш за ўсё апісваюць словы святога праведнага Іава Шматпакутнага: *“Калі я чакаў дабра, прыйшло зло; калі чакаў святла, прыйшла цемра”* (Іаў. 30: 25-26). Пачалася новая Сусветная вайна, якая стала для нас Другой Айчыннай. У вялікіх крыжовых пакутах, перажытых за гады ваеннай трагедыі, быў пакладзены пачатак адраджэнню Святой Царквы, — пачатак уваскрасення хрысціянскай душы народа і апраўдання нашай Радзімы перад аблічцам Божым. А зарукаю гэтага стала тое, што дзяды і айцы нашыя ўсвядомілі, як і біблейскі герой, што *“не ад мноства войска бывае перамога на вайне, але з неба прыходзіць сіла”* (1 Мак. 3: 19). І тады, у першыя дні, месяцы і гады вайны сэрцы людзей вольна ці міжвольна пачалі паўтараць словы Свяшчэннага Пісання, кажучы: *“Яны ідуць супраць нас з вялікай пыхаю і нячэсцем, каб знішчыць нас і жанчын нашых і дзяцей нашых, каб абрабаваць нас; а мы змагаемся за душы нашы”* (1 Мак. 3: 20-21).

І Айчынная вайна, што пачалася ў 1941 годзе ў дзень Усіх Расійскіх Святых, праз чатыры гады, скончылася Вялікай Перамогай у дні Светлага Пасхальнага тыдня, — *“і супакоілася зямля ад вайны”* (Нав. 11: 20).

Узлюбленыя браты і сёстры! У памяць пра гэтую Вялікую Перамогу жыцця над смерцю ў горадзе Брэсце узведзены велічны сабор у гонар Светлага Хрыстовага Уваскрасення. Яшчэ ў дні заснавання гэтага храма-помніка Свяцейшы Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Аляксій Другі выказаў намер прыбыць на яго асвячэнне, калі святая справа храмабудавання будзе завершана.

Сёлета, па запрашэнні Беларускай Праваслаўнай Царквы, Яго Свяцейшаства збіраецца зрабіць сваё чацвёртае апостальскае падарожжа па епархіях Беларусі. У дні, калі ў чэрвені мы будзем з болем згадваць шасцідзесятую гадавіну пачатку Вялікай Айчыннай вайны, Прадстаяцель Маці-Царквы з дапамогай Божай выканае свой намер і асвяціць Брэсцкі Свята-Уваскрасенскі сабор, узведзены ў памяць пра Вялікую перамогу нашага народа. і тады зноў, па словах прападобнага Серафіма Сароўскага, улетку заспяваюць Пасху:

**“Хрыстос уваскрэс!**
**Сапраўды ўваскрэс!”**

Чым больш часу мінае з той гераічнай пары, тым больш зразумелым робіцца для нас правідэнцыяльны сэнс нашай гісторыі. За апошняе паўгоддзе мінулага стагоддзя ў Маскве быў завершаны і асвячоны храм у гонар Раждаства Хрыстовага, некалі пабудаваны і цяпер аднаўлены ў памяць пра Першую Айчынную вайну нашага народа, якая пачалася ў 1812 годзе.

У першым паўгоддзі XXI стагоддзя нам належыць асвяціць храм ў гонар Уваскрасення Хрыстовага, узведзены ў памяць пра Другую Айчынную вайну, якую многія з нас перажылі дзецьмі, юнакамі, воінамі. Сапраўды, *“выкананы абавязак, запаведаны Богам”*. Чым жа мы з вамі сёння можам ўшанаваць памяць тых, хто вынес на сваіх плячах цяжар вайны? Які той гістарычны абавязак перад наступнымі пакаленнямі і перад бацькамі нашымі, што Гасподзь ускладае на нас і сучаснікаў нашых?

Узлюбленыя браты і сёстры, абавязак гэты нязменны для праваслаўных хрысціян, бо выкананне яго запаведана Самім Хрыстом Збаўцелем: *“Няхай свеціць святло ваша перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя справы і праслаўлялі Айца вашага Нябеснага”* (Мф. 5: 16).

У цяперашні час раздзяленняў, якія напаткалі нашы народы ў нядаўнім мінулым, Гасподзь ясна дае зразумець кожнаму з нас, што толькі ў адзінстве магчыма правільна славіць Бога і здзяйсняць богаўгодныя справы служэння адзін аднаму і людзям, якіх, паводле запаведзі Збаўцеля, трэба імкнуцца любіць, *“як самога сябе”* (Мф. 19: 19). Так, распаўсюджванне Царквы Хрыстовай без малога 2000 гадоў таму стала магчымым толькі пры ўмове адзінства веры і супольнай пропаведзі ўсіх першахрысціян на чале са святымі апосталамі.

Таксама і наша перамога ў Вялікай Айчыннай вайне стала магчымай таму, што мы перасталі ваяваць самі з сабой, а зноў сталі “братамі і сёстрамі”. Перад аблічцам смяротнай небяспекі айцы і дзеды нашы ўсё прабачылі адно аднаму і разам змагаліся да пераможнага канца.

Так і ў цяперашні неспакойны час мы павінны аб'яднацца і ў святле Уваскрасення Хрыстовага ўжо не ўспамінаць крыўд і ўзаемных саграшэнняў, але ўсё прабачыць адно аднаму. Бо інакш пасхальнае святло, якое павінна быць у нас, замяняецца цемраю. Але гэтага ніколі нельга дапускаць, бо Хрыстос Збаўцель сказаў пра Сваіх паслядоўнікаў: *“Вы — святло свету”* (Мф. 5: 14).

Згадаем таксама і словы Свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Аляксія Другога, звернутыя да вернікаў Маці-Царквы ў Вялікапосным пасланні: *“...Лёс свету і лёс нашай Айчыны сёння ў значнай ступені залежыць ад нас, хрысціян, ад нашага духоўна-маральнага стану, ад нашай малітвы і пакаяння, ад нашай здольнасці несці добрую вестку і здзяйсняць справы міласэрнасці”*.

Узлюбленыя браты і сёстры! Адзінства веры і адзінства духа церпяць сёння найбольшыя выпрабаванні з боку сіл супраціўных. Насенне разладу і раздзялення ўсё яшчэ сеецца ў свеце. На жаль, яно нярэдка знаходзіць для сябе глебу нават у царкоўным асяроддзі, дзе прарастае ў душах *“людзей неглыбокіх”*, як казаў Апостал. Спосаб лячэння гэтай небяспечнай хваробы знаходзім мы ў кнізе Псалмоў: *“Перастань гневацца і пакінь ярасць; не імкніся да таго, каб рабіць зло”* (Пс. 36: 8). І да слоў Старазапаветнага Псалмаспеўца далучаецца Новазапаветны Апостал: *“...Стрымлівай язык свой ад зла і вусны свае ад ліхіх слоў; ухіляйся ад зла і рабі дабро; шукай міру і імкніся да яго”* (1 Пятр. 3: 10-11).

У дні Светлага Хрыстовага Уваскрасення мы звяртаем нашы пасхальныя вітанні да ўсіх хрысціян зямлі Беларускай і да ўсіх беларусаў у дыяспары, якія жывуць далёка за межамі Беларусі.

Мір вам, дарагія браты і сёстры!

**Хрыстос уваскрэс!**
**Сапраўды ўваскрэс!**

**Філарэт,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх ўсяе Беларусі.**
Уваскрасенне Хрыстова,
2001 г., Мінск.

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

## Гамлетаўскае пытанне стаіць перад намі, беларусамі, — зможам мы і далей жыць на гэтай зямлі ці згінем?

## 5. Хлусня

*(Працяг. Пачатак у №№66–69.)*

Самы моцны і самы шкодны наркотык — хлусня. Цвіль есць траву, іржа — жалеза, а хлусня — душу.

Калі б я быў прэзідэнтам, дык першым указам забараніў бы хлусню. Бо калі грамадства пазбаўлена аб'ектыўнай інфармацыі, праўды аб тым, што адбываецца ў краіне, дык як жа яно можа прымаць правільныя рашэнні і выбіраць талковых кіраўнікоў і дэпутатаў?

У нас у дзяржаўных СМІ не даюць слова апазіцыянерам, наогул разумным людзям, якія нязгодныя з сённяшнім курсам. А потым бясконца тараторыць: “А каго ж выбіраць прэзідэнтам, як не Лукашэнку? Больш няма нікога”. А вы далі б слова ўсім талковым, паслухалі б, як яны гавораць, што ведаюць, і няхай людзі самі вырашаюць, за каго галасаваць на выбарах. Так, дарэчы, у кожнай нармальнай краіне. Там спаборніцтва ідэй, лідэраў, з якіх можна зрабіць добры выбар.

Але не ў нас. Мы жывём у свеце хлусні, якая стала асноўнай ідэалагічнай упакоўкай. Вось уключаю тэлебачанне і чую: маўляў, людзі на рэферэндуме выказаліся за захаванне СССР, а яго ўзялі ды развалілі. Такі тэзіс пракручваецца перыядычна як у расійскіх СМІ, так і беларускіх. А ён жа лжывы з пачатку і да канца. Хіба ў сакавіку 1991 года нехта пытаў у нас: вы хочаце жыць у СССР ці жадаеце, каб ваша рэспубліка стала незалежнай дзяржавай? Не, тады так пытанне не ставілася. Я зараз нагадаю пытанне, якое выносілася на той рэферэндум, і раю вельмі ўважліва азнаёміцца з ім. Вось яно: “Считаете ли вы необходимым сохранение СССР как обновленной федерации равноправных суверенных республик, в которой будут в полной мере гарантированы права и свободы человека любой национальности?”.

Калі вы адказваеце “так”, значыць вы за абноўленую федэрацыю СССР. Калі б людзі адказалі “не”, гэта значыла б, што яны супраць абнаўлення федэрацыі, а за той, стары СССР. Калі б яны наогул не прыйшлі на рэферэндум, значыць, не захацелі аднаўляць СССР. Словам, як ні галасуй, хадзі ці не хадзі на той рэферэндум, усё роўна ты выступаеш за “захаванне СССР”. Вось такое несумленнае пытанне.

Менавіта таму большасць рэспублік СССР наогул не праводзілі той рэферэндум, а (у іх шэрагу Літва, Украіна, Малдова, Латвія, Грузія) правялі сумленныя рэферэндумы і чэсна спыталі ў сваіх грамадзян: вы хочаце, каб ваша рэспубліка была свабоднай дзяржавай? Больш як 90% удзельнікаў тых рэферэндумаў адказалі “так”.

Такім чынам, грамадзяне большасці былых рэспублік сказалі “не — СССР” і “так” — сваёй дзяржаве. Вось яна праўда! Як жа можна цяпер сцвярджаць, што людзі нібыта выступалі за захаванне СССР.

Цяпер вось тыражуюць чарговую вялікую хлусню: маўляў, мы аб'яднаемся з Расіяй у адзіную дзяржаву і пры гэтым Беларусь будзе свабоднай і суверэннай краінай. Больш за тое, на самым версе сцвярджаецца, што гэта будзе сапраўдны суверэнітэт і сапраўдная незалежнасць. Яны што, зусім з глузду з'ехалі ці нахабна лічаць нас такімі?

Калі чуеш падобнае, дык міжволі думаеш: якія наіўныя гэтыя амерыканцы і англічане. Яны ж нават не здагадваюцца, што іхнія суверэнітэт і незалежнасць абсалютна несапраўдныя. Ім спачатку трэба стаць суб'ектам Расійскай Федэрацыі, і толькі пасля гэтага яны будуць мець сапраўдную незалежнасць і сапраўдны суверэнітэт, такі, як у Татарстана ці Тульскай губерні, і да якога імкнецца Беларусь.

Зноў уключаю Беларускае тэлебачанне. Там выступаюць прадстаўнікі дзяржаўных газет і называюць сябе журналістамі. Але даўно вядома, што журналісты ў дзяржаўных выданнях не працуюць. У былыя камуністычныя часы іх называлі больш сумленна. Ленін лічыў, што работнікі дзяржаўных СМІ з'яўляюцца “калектыўнымі прапагандыстамі і калектыўнымі агітатарамі” партыі. А на з'ездах КПСС іх называлі “приводными ремнями” партыі, яе падручнымі. Такімі яны і засталіся — калектыўнымі агітатарамі ўлады, яе падручнымі і “приводными ремнями”.

Ну дык і клікалі б сябе прываднымі рамянямі ўлады. Што тут такога?

Многія сумленна гаварыць проста не могуць. Хлусня ўжо ўвайшла у “плоць і кроў” і без яе, як наркаман без шпрыца ці алкаш без бутэлькі, проста не могуць. Між тым яшчэ старажытнагрэчаскі філосаф Цыцэрон павучаў: “Першы закон гісторыі — баяцца любой хлусні і не баяцца ніякай праўды”.

Мяне больш за ўсё хвалюе не тое, чаму многія так хлусяць? Ну такія ўжо людзі, так выхаваны, што з іх возьмеш. Мяне пасапраўднаму турбуе іншае: чаму людзі вераць хлусні? Ніхто ж сілком не прымушае іх выпісваць і чытаць хлуслівыя газеты, тыя, якія вешаюць лапшу на вушы. Але ж выпісваюць і купляюць, аддаюць свае грошы за тое, каб іх падманвалі. Лепш аддалі б іх цыганцы, тая зробіць падман намнога цікавей.

Напэўна, наша грамадства ўсё-такі хворае на падман, бо яно вырасла ў атмасферы хлусні, і сённяшні беларус ужо не можа без яе, як заядлы курыльшчык без цыгарэты.

Наркаману нічога не трэба. Для поўнага шчасця яму трэба толькі чарговая порцыя дурману. Так і люду з вытраўленай душой — чарговая порцыя хлусні. І чым яна прыгажэйшая, тым мацней ён цягнецца да яе. Людзі ўжо не хочуць слухаць пра праграмы выхаду з крызісу. Ім бліжэй і больш зразумела казачка пра “скатерть-самобранку”.

Што робіць урач, калі да яго прыходзіць хворы? Ён дае яму тэрмометр, мерае ціск, пасылае на аналізы... Ён хоча мець дакладную інфармацыю аб стане яго арганізма. Толькі пасля гэтага магчымы дакладны аналіз і эфектыўныя лекі.

Тое ж і ў грамадстве. Толькі праўдзівая, аб'ектыўная інфармацыя — аснова яго здаровага развіцця. Праўда — у многіх выпадках горкі напітак, але ён вылечвае і ўмацоўвае здароўе грамадства. На жаль, у нас вельмі мала такога эфектыўнага напітку. Усе асноўныя сродкі масавай інфармацыі — пад кантролем улады. Яны зусім і не сродкі інфармацыі, а інструмент дэзінфармацыі. Такім чынам, грамадства не лечыцца, а калечыцца.

Гісторыя пераканаўча паказала: нельга вылечыць грамадства з дапамогай хлусні. Нават вельмі прыгожай.

Да сказанага варта дадаць, што нашых людзей надта змучыла цяжкае, беспрасветнае жыццё. Яны моцна мараць аб лепшай долі. Сумленныя палітыкі гавораць ім аб праграмах выхаду з крызісу, аб доўгім і цяжкім шляху да нармальнага жыцця. А хлусы-казачнікі малююць светлае будучае ўжо заўтра: маўляў, вы толькі прагаласуйце за мяне — і я ўсё вам дам. І хоць у яго кішэні пуста, але так хочацца хуткага дабрабыту, што міжволі аддаеш голас за яго.

Хворы заўжды хапаецца за любую саломінку і топіцца разам з ёю.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*(Заканчэнне будзе.)*

"Для того чтобы убедиться, что у некоторых людей напрочь отсутствуют мозги, не обязательно даже на улицу выходить, достаточно просто телевизор включить..."

"Советская Белоруссия", №75-76, от 17.03.2001

Вы смотрите программу «Резонанс»...

Сепедка

# Пастырскі ліст на Вялікдзень 2001 года

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Было таксама шмат хрысціянаў, якія на працягу жыцця заставаліся вернымі Богу, былі безымяннымі героямі, перад якімі трэба з павагаю і ўдзячнасцю схіліць галовы.

Аднак і ў наш час не так проста вызнаваць Хрыста і жыць паводле Яго Евангелля. Сёння перашкаджае верыць у Бога не столькі тэарэтычны і ваяўнічы атэізм, як практычны і эгаістычны матэрыялізм ва ўсіх яго праявах.

У апостальскім лісце Dies Domini (1998 г.) Папа Ян Павел II нагадвае, што “час, ахвяраваны Хрысту, ніколі не будзе страчаным часам, хутчэй часам, які мы знаходзім, каб надаць глыбока чалавечы характар нашым адносінам з іншымі і нашаму жыццю” (7). Час, прысвечаны Богу, — гэта найбольш яскравы паказчык нашай падрыхтаванасці да сустрэчы з уваскрослым Хрыстом. Не сустрэне Бога той, хто Яго не шукае.

Вызнаванне Хрыста сёння азначае таксама прызнанне Яго перад іншымі. “Але сведчанне веры перад іншымі не азначае агрэсіўнага навязвання атачэнню ўласных перакананняў, ні тым больш неразважлівага асуджэння некага ў імя вызнаванай веры” (кс. А.С.).

Вызнаванне веры павінна праяўляцца праз актыўны ўдзел у справе новай евангелізацыі, каб абвяшчаць іншым вучэнне Хрыста, каб адважна ў ім трываць нават тады, калі іншыя гавораць: “Якія дзіўныя словы! Хто можа іх слухаць?” (гл.Ян 6,60).

Новая евангелізацыя — гэта вызнаванне Хрыста праз сведчанне штодзённым жыццём. Наша схільнасць да зла спрыяе таму, што часам мы не можам выканаць патрабаванні Хрыстовага евангельскага закліку. Узгадайма тут Апосталаў, якія ў Вячэрніку запэўнівалі Езуса ў сваёй вернасці і гатоўнасці аддаць за Яго сваё жыццё. А тады, калі Езус быў схоплены, асуджаны і ўкрыжаваны, яны ганебна Яго пакінулі. Аднак Езус падчас сустрэчы з Апосталамі пасля свайго змёртвыхпаўстання нават не ўзгадаў аб іх баязлівасці, а, наадварот, надзяліў іх апостальскай уладаю. Езус Хрыстус таксама гатовы прыняць і нас, калі толькі будзе ў нас сапраўдная скруха за нашае бязвер'е ў Яго і Яго Евангелле, калі мы будзем у сваім штодзённым жыцці даваць сведчанне прыналежнасці да Хрыста Пана праз рэалізацыю патрабаванняў Яго Евангелля і наказаў Касцёла. Аднак Пан Езус прагне напоўніць нас сваёю радасцю і супакоем, які паходзіць з Яго ўваскрэсення.

Уважліва ж прыслухаемся і возьмем у сваё жыццё заключныя словы ўжо цытаванага тут апостальскага ліста Dies Domini Святога Айца Яна Паўла II: “Каб людзі трэцяга тысячагоддзя, сустракаючыся ў кожную нядзелю з Касцёлам, які радасна святкуе таямніцу і з якой чэрпае ўсё сваё жыццё, маглі сустракаць самога ўваскрослага Хрыста. Яго ж вучні, пастаянна аднаўляючыся праз штотыднёвую памяць Пасхі, няхай становяцца ўсё больш сапраўднымі прапаведнікамі збаўчага Евангелля і актыўнымі будаўнікамі цывілізацыі любові”.

Дарагія дыяцэзіяне!

У духу гэтага ліста прыміце мае Велікодныя віншаванні: “Не бойцеся” і “Супакой вам”.

**Кардынал Казімір СВЁНТЭК,**
**Арцыбіскуп, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,**
**Апостальскі Адміністратар Пінскай дыяцэзіі.**

РЭГІЁН

## Шукаюць крамолу

На мінулым тыдні памяшканне, дзе месціцца Крычаўскае грамадскае культурна-асветніцкае аб'яднанне “Кантакт-цэнтр” наведалі прадстаўнікі мясцовага аддзела РАУС. Міліцыянты катэгарычна запатрабавалі дазволу агледзець памяшканне на прадмет наяўнасці ў ім камп'ютэраў і іншых каштоўных рэчаў.

Усе тры супрацоўнікі міліцыі не прад'явілі службовыя пасведчанні, а два з іх адмовіліся назваць нават свае пасады. Участковы інспектар старшы лейтэнант сп.Мендзелеў (так гэтага чалавека можна назваць толькі з яго слоў) першапачаткова абсалютна беспадстаўна захацеў праверыць пашпарты ва ўсіх прысутных. **Нязванаму госцю было адмоўлена ў гэтым, пасля чаго старшы лейтэнант запатрабаваў дазволу агледзець** памяшканне, маўляў, тут знаходзіцца камп'ютэрная тэхніка і міліцыі неабходна ўсё ўдакладніць. Члены “Кантакт-цэнтра” папрасілі прад'явіць адпаведную санкцыю пракурора. Аднак, па словах участковага, для падобнага дагляду санкцыя пракурора ўвогуле не патрэбна і дастаткова толькі прыналежнасці прыйшоўшых да РАУС. І ў гэтым міліцыянтам было адмоўлена.

Пасля гэтага ўчастковы інспектар выклікаў да сябе ў РАУС павесткай гаспадара дома Андрэя Кузьміна. Пры гэтым ён заверыў, што праз дзень памяшканне “Кантакт-цэнтра” ўсё роўна будзе агледжана. З'явіўшыся на наступны дзень у органы, сп.Кузьмін больш за гадзіну чакаў учарашняга госця. Марна: старшага лейтэнанта не было.

Здавалася б усё — інцыдэнт вычарпаны. Міліцыя ўсвядоміла ўсю абсурднасць сваіх прэтэнзій і, нарэшце, **спыніла гвалт. Але праз дзень** дэлегацыя людзей у форме **зноў завітала ў “Кантакт-цэнтр” і зноў катэгарычна патрабавала дазволу агледзець памяшканне.**

Члены “Кантакт-цэнтра” звязваюць візіты навязлівых гасцей з маючымі адбыцца выбарамі прэзідэнта нашай краіны. Як вядома, грамадскія арганізацыі ў Беларусі чамусьці аднесены ўладамі да апазіцыі і таму перад выбарамі ім проста спрабуюць ускладніць існаванне.

## Без аховы

Досыць цікавым чынам на лёсе Крычаўскага дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення №20 (ДРБУ-20) адбіўся эканамічны і фінансавы заняпад гэтага прадпрыемства.

З-за хранічнага недахопу грошай кіраўніцтва ДРБУ-20 каля тыдня таму было вымушана адмовіцца ад паслуг пазаведамаснага аб'яднання “Ахова” і зняць сваё памяшканне з пульта ахоўнай сігналізацыі. Літаральна на наступны дзень невядомыя злачынцы абрабавалі прадпрыемства. Былі ўзламаны некалькі кабінетаў і скрадзена камп'ютэрная тэхніка.

Дарэчы, за некалькі дзён да гэтага падобным жа чынам было абрабавана раённае аддзяленне паштовай сувязі. Тады разам з камп'ютэрнай тэхнікай зніклі жаночыя боты, якія належалі адной з работніц.

## Замежная кукуруза

Дзіўныя формы набыў працэс “яднання двух братніх народаў” у Мсціслаўскім раёне. Беларускі памежны калгас “Октябрь” сёлета плануе засеяць даволі значныя сельскагаспадарчыя плошчы ў суседняй дзяржаве.

Апошні ў Хіславіцкім раёне Смаленскай вобласці калгас “Борец” яшчэ ў мінулым годзе прапанаваў беларускаму суседу сваю зямлю. “Октябрь” скарыстаўся гэтым і засадзіў прапанаванае ўгоддзе кукурузай. Гэта была, канешне, не дабрачынная акцыя расіян і не жэст добрай волі, бо ўвесну прадстаўнікі “Борца” рэгулярна прыязджалі на Мсціслаўшчыну за кармамі для буйной рагатай жывёлы.

У гэтым годзе беларускія калгаснікі зноў будуць вырошчваць замежную кукурузу.

## Адкрылі прытулак

Зусім нядаўна ў Чэрыкаве на базе дзіцячага садка №3 адкрыўся дзіцячы прытулак для сірот і іншых абяздоленых маленькіх чэрыкаўцаў.

Стварэнне дзіцячага дома наспела ўжо даволі даўно. На сённяшні дзень ў раёне налічваецца больш за 40 так званых сацыяльных сірот — малых, чые бацькі кінулі іх у радзільных дамах ці былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў — і яшчэ каля 50 хлопчыкаў і дзяўчынак знаходзяцца на выхаванні ў розных інтэрнатах краіны.

Самым сумным з'яўляецца тое, што вышэйпрыведзеныя лічбы адлюстроўваюць толькі вяршыню айсберга. На самай справе дзяцей, якія ходзяць у рыззі, харчуюцца дрэнна і нерэгулярна, маюць пітучых бацькоў і для якіх жыццё ў прытулку можна назваць цудоўнай перспектывай, значна больш.

**Інфармацыйная служба “Кантакт-цэнтр”.**
**г.Крычаў.**

КОМАНДИРОВКА

# В НАШУ ГАВАНЬ НЕ ЗАХОДЯТ КОРАБЛИ

*Создание белорусского прибрежного морского флота, судя по всему, откладывается на неопределенное время. Речицкий судостроительно-судоремонтный завод, который, по планам белорусского правительства, должен был строить суда смешанного (река-море) плавания, переживает сегодня не лучшие времена. Голландская фирма, с которой предприятие работало последние несколько лет, прервала контракт с ним.*

Еще в прошлом году успехам Речицкого завода можно было позавидовать. Речицкие корабелы делали корпуса для голландской фирмы “Дамен Шипьярдс Бергум”. Сотрудничество с иностранной фирмой приносило заводу неплохую прибыль, которая инвестировалась в развитие предприятия.

Первые контракты с голландцами были заключены в 1991 году: сначала на корпуса небольших судоходных кораблей морского флота, потом — на выпуск контейнеровозов грузоподъемностью от 1,7 до 2,5 тысячи. Одно время разрабатывался даже проект акционирования этого предприятия с участием голландской фирмы.

Схема, по которой работал белорусский завод с голландцами, устраивала наших производителей. Голландцы финансировали строительство корпусов на всех этапах, выделяя авансовые платежи и на приобретение материалов, и на текущие расходы, и на транспортировку корпусов. Белорусские судосборщики планировали перейти на строительство трех корпусов ежегодно. На завод пришли молодые рабочие, другие специалисты, в планах руководства стоял переход на двухсменную работу... Но вдруг неожиданно для всех голландцы ушли с белорусского рынка.

Правда, в это же время “Дамен Шипьярдс Бергум” подписала договор купли-продажи 85% акций судостроительного украинского завода “Океан”. Возможно, это и есть главный ответ на вопрос: почему голландцы отказались работать с речицким заводом. Судя по всему, голландцам спокойнее и увереннее работать с украинскими судостроителями, чем с нашими. И вопрос не в качестве работы. Голландцы не уверены в кредитно-финансовой политике нашего государства. Именно поэтому они и отказались от создания совместного предприятия с белорусами три года назад. Ни один капиталист не станет вкладывать деньги в дело, которое может провалиться. Зная, как бывают порой непредсказуемы в своих действиях белорусские власти, голландцы, видимо, и не стали рисковать.

### Справка “Народной воли”

***Внутренний водный транспорт Беларуси включает в себя пароходство, 10 речных портов, 4 судостроительно-судоремонтных завода, 4 предприятия водных путей, проектную и строительную организации, инспекции по надзору за безопасностью судоходства и техническим состоянием флота.***

***Речной транспорт в мире считается самым дешевым. Однако в Беларуси последние годы наблюдается спад перевозок грузов по воде. К слову, в 1991 году белорусские суда перевозили более 20 млн. тонн различных грузов, в т.ч. железную руду — в Германию, кварциты и лес — на Украину.***

***После распада СССР объем перевозок речным транспортом резко упал. Около 80% несамоходных судов были выведены из эксплуатации.***

ALDEBARAN

По словам директора Речицкого завода Дмитрия Буко, голландцы никогда не предъявляли претензий к качеству работы речицких судосборщиков. Более того, когда в 90-х годах встал вопрос, кому сделать заказ на строительство корпусов, голландцы остановились именно на речицком заводе. “Они посмотрели российские заводы, побывали на Гомельском, Петриковском и Пинском судостроительных заводах и выбрали нас”, — говорит Дмитрий Иванович. — Кадры на заводе подобрались хорошие. Голландцы научили нас хорошо работать и самое главное — качественно. Когда однажды мы были в Голландии и пришли корпуса из Беларуси, Польши и Калининграда, все увидели, что корпуса, собранные на нашем заводе, лучше качеством.

Может, это просто хитрый шаг голландцев: они не хотят, чтобы наши заводы поднялись в полный рост. Они могут выждать время, — ведь для нас их уход означает полный крах, — а потом вернуться и диктовать свои условия".

Уход голландцев с белорусского рынка — это не только крах одного предприятия. Ведь по планам белорусского правительства именно речицкий завод должен был строить суда смешанного плавания. Проект будущих судов разрабатывался вместе с голландцами. Но планы, видимо, придется отложить на неопределенное время. А о том, что Беларуси нужен свой речной флот, говорят сегодня в один голос все: и экономисты, и транспортники, и судостроители. В доказательство достаточно привести только один пример: почти половина всего белорусского экспорта в страны дальнего зарубежья осуществляется с участием морского транспорта. При этом немалую часть оплаты за перевозку получают иностранные государства, а не Беларусь.

“Такие же корпуса мы должны строить для Беларуси, — говорит Дмитрий Буко. — Мы можем ходить под своим флагом на своих судах, а не брать их напрокат у иностранцев. Например, сейчас Беларусь отправляет калийные соли в Калининград, а потом по морю — в другие страны. И около 20% от стоимости груза забирают себе те, кто его перевозит. А это могли бы быть наши суда”.

Еще в 1992 году Совет министров принял постановление о создании морского флота Республики Беларусь. И это постановление никто не отменял. В прошлом году была утверждена “Программа развития речных и морских перевозок до 2010 года”, согласно которой уже через 9 лет Беларусь должна иметь 6—8 судов типа “река—море” грузоподъемностью около 3 тысяч тонн и 12 судов прибрежного плавания. На бумаге все выглядит красиво. Но не более того. В нашу гавань корабли по-прежнему не заходят.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

